PAŠAUKIMAS.

Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

▼▼▼▼

№ 5 (7) 15-га Верасьня—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

Страніца.

**На чужыне.** *А. Палын.* . . . . . . . . . . . . . . . . 1

**Некалькі цыфраў аб становішчы беларусоў у Літве.** *Настаўнік* . . . . . . . . . . . . . 2

**Памяцi Вялікага Князя Літоўскага Витаўта** (працяг). *Януш Косьцевіч* . . . . . . . . . . . . . . 8

**Літва** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13

**Радавая Беларусь** . . . . . . . . . . . . . . . . . 18

**Заходняя Беларусь** . . . . . . . . . . . . . . . . 28

**Латвія** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30

**Што чуваць ў сьвеце** . . . . . . . . . . . . . . . 30

# Покліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „B-vė Knyga", Laisvės al., 52.**

№ 5 (7). 15-га ВЕРАСЬНЯ—1926 г. Коўна.

*А. Палын.*

## На чужыне.

Цябе здалёк, мой родны край,
люблю цябе, дзяцінства рай!
люблю палеткі і лясэ,
і рэчак срэбны паясэ,
крыштальна-люстраны вазёры—
тваю красу, твае уборы!

Здалёк кахаю свой народ,
што ў рабстве лье і кроў і пот;
імкнусь яму я на падмогу,
каб хутка зьняць паноў аблогу,
ланцуг няволі разарваць,
свабоды радасьць сьвяткаваць.

Але ў руках у злой нядолі,
ў зямлі чужой, пазбыты волі,
я у бяздзейнасьці марнею...
чакаю шчасьця, думку грэю,
што хутка праўда пераможа,—
Злучыцца нам усім паможа

ў адну працоўных грамаду,
падзелу скіне з нас бяду,
салье народ ў працоўных моры,
разваліць мук, уціску горы,
ў багацьці, славе к нам прыдзе,
людзей да брацтва павядзе...

# Некалькі цыфраў аб становішчы беларусоў у Літве.

Згодна перапісі 1923 г., ў Літве налічваецца ўсяго 4,4 тысячы беларусоў. Беларускае жыхарства раскідана па ўсёй Літве, толькі ў Троцкім павеце знайходзіцца значная частка беларусоў—1.946 чалавек, а ў другіх паветах беларуская насельнасьць па перапісі злічваецца ўсяго толькі сотнямі.

| **Назовы паветаў** | **Лік беларусоў** | | Усяго | %% беларусоў |
|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Кабет | | |
| Абельскі . . . . . . | 103 | 87 | 190 | 0,17 |
| Біржа-Пасвальскі . . . | 16 | 12 | 28 | 0,02 |
| Ковенскі . . . . . . | 65 | 52 | 117 | 0,12 |
| г. Коўна . . . . . . | 97 | 74 | 171 | 0,19 |
| Кейданскі . . . . . . | 23 | 20 | 43 | 0,05 |
| Крэцінгскі . . . . . . | 49 | 60 | 109 | 0,12 |
| Марыямпальскі . . . . | 70 | 35 | 105 | 0,11 |
| Мажэйкаўскі . . . . . | 77 | 84 | 161 | 0,23 |
| Панявежскі . . . . . . | 50 | 51 | 101 | 0,08 |
| Панявеж . . . . . . | 15 | 15 | 30 | 0,16 |
| Расіенскі . . . . . . | 84 | 86 | 170 | 0,16 |
| Ракішскі . . . . . . | 17 | 15 | 32 | 0,04 |
| Сейнскі . . . . . . | 33 | 28 | 61 | 0,16 |
| Шацкі . . . . . . . | 71 | 88 | 159 | 0,24 |
| Шавельскі . . . . . . | 171 | 169 | 340 | 0,19 |
| Шаўлі . . . . . . . | 21 | 9 | 30 | 0,14 |
| Цельшынскі . . . . . | 144 | 166 | 310 | 0,38 |
| Троцкі . . . . . . . | 961 | 985 | 1946 | 2,48 |
| Уцянскі . . . . . . | 29 | 36 | 65 | 0,06 |
| Ваўкавыскі . . . . . . | 54 | 62 | 116 | 0,14 |
| Вілкамірскі . . . . . . | 29 | 30 | 59 | 0,05 |
| г. Вілкамір . . . . . . | 3 | 1 | 4 | 0,04 |
| Эжарэнскі . . . . . . | 11 | 19 | 30 | 0,07 |
| **Усяго** . . . | 2215 | 2206 | 4421 | 0,22 |

Галоўная частка беларускай насельнасьці жыве па вёсках—3.807 чалавек, а па гарадох і мястэчках жыве ўсяго 614 чалавек.

Па рэлігіі беларускае жыхарства дзеліцца гэткім парадкам:

| **Назова рэлігіі** | Мужчын | Кабет | Усяго |
|---|---|---|---|
| Праваслаўных . . . . | 819 | 806 | 1625 |
| Старавераў . . . . . | 14 | 14 | 28 |
| Люцеран . . . . . | 1 | 1 | 2 |
| Грэка-каталіцкай (вуніяцкай) . | 13 | 14 | 27 |
| Каталікоў . . . . . | 1363 | 1370 | 2733 |
| Армяна-грыгорыянцаў . . | 1 | — | 1 |
| Бабцістаў . . . . . | 3 | 1 | 4 |
| Іншых . . . . . . | 1 | — | 1 |
| **Усяго** . . . | 2214 | 2206 | 4421 |

Па ўзросту беларуская насельнасьць дзеліцца гэтак:

| Годы | % беларусоў па годам | % усяго жыхарства | |
|---|---|---|---|
| 0— 9 | 19,43 | 18,91 | |
| 10—19 | 26,35 | 24,19 | |
| 20—29 | 16,60 | 19,20 | |
| 30—39 | 13,28 | 10,78 | |
| 40—49 | 9,52 | 8,78 | |
| 50—59 | 7,13 | 7,87 | |
| 60—69 | 4,95 | 6,34 | |
| 70—79 | 1,97 | 2,77 | |
| 80 і звыш | 0,68 | 1,25 | |

Са ўсяе беларускае насельнасьці ў 4,4 тысячы, жывучых самастойнаю працаю,—3,1 тысяч.

Па асобным галінам гаспадаркі беларусы дзеляцца гэткім парадкам:

| **Галіны гаспадарак** | | Гаспадары | Рабочыя чл. сям'і | Служачыя | Рабочыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сялянская гаспадарка | Мужчын | 451 | 430 | 8 | 353 | 1242 |
| | Кабет | 73 | 934 | — | 296 | 1303 |
| Прамысловасьць | Мужчын | 72 | 10 | 4 | 89 | 130 |
| | Кабет | 5 | 12 | 1 | 17 | 35 |
| Транспарт | Мужчын | — | — | 13 | 36 | 49 |
| | Кабет | — | — | 2 | — | 2 |
| Гандаль | Мужчын | 8 | — | 7 | 4 | 19 |
| | Кабет | 1 | 3 | — | 2 | 6 |
| Урадавая і грамадзкая служба | Мужчын | 14 | — | 73 | 21 | 108 |
| | Кабэт | 1 | — | 9 | 3 | 12 |
| Іншыя крыніцы | Мужчын | 6 | 2 | — | 42 | 50 |
| | Кабет | 82 | 19 | — | 49 | 150 |
| **Усяго** | Мужчын | 506 | 442 | 105 | 545 | 1598 |
| | Кабет | 161 | 968 | 12 | 367 | 1508 |

Як ъідаць з табліцы, сялянская гаспадарка, і пры гэтым дробная, складае аснову беларускай гаспадаркі ў Літве.

## СЯМЕЙНАЕ СТАНОВІШЧА.

Усяго ў Літве.

| | %% усяго жых. | | %% беларусоў | |
|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Кабэт | Мужчын | Кабэт |
| Жанатых і замужніх . . | 48,7 | 42,8 | 55 | 47,8 |
| Няжанатых . . . . . | 46,2 | 41,1 | 40,7 | 36,2 |
| Удаўцоў і ўдоў . . . | 3,9 | 14,7 | 3,6 | 15,0 |
| Разведзеных . . . . . | 0,5 | 0,7 | 0,2 | 0,7 |
| Невядомых . . . . . | 0,7 | 0,7 | 0,4 | 0,3 |
| **Усяго** . . . | 100 | 100 | 100 | 100 |

Вышэй пададзеныя табліцы могуць быць скарыстаны для разгляду сучаснага становішча беларусоў у Літве. Гэтае становішча выявіцца зусім выразна, калі ўзяць пад увагу, што згодна перапісі 1897 году, беларусоў на абшарах сучаснай Літвы лічылася 70 тысяч. Такім чынам, за час паміж перапісью 1897 г. і перапісью 1923 г. лік беларускага жыхарства, карыстаючагася правамі літоўскага грамадзянства, зьменшіўся на 65,6 тысяч, гэта значыць, праўнага беларускага жыхарства на абшарах сучаснай Літвы засталося толькі 6,3%.

Чым тлумачыцца гэткае катастрафічнае зьмяншэньне ліку беларускай насельнасьці ў Літве?

Дзеля гэтага ёсьць як аб'ектыўныя прычыны, так і прычыны культурна-палітычнага характару.

Шмат беларускага жыхарства сучаснай Літвы эмігрыравала ў Амерыку, якая эміграцыя абгортвала амаль увесь натуральны прырост беларускай насельнасьці. Па другое, было даволі значнае перасяленьне беларускага жыхарства ў Сібір, Туркестан і Каўказ. Далей, беларускае жыхарства панясло вялікія страты ад бежанства і ўсесьветнай вайны. Але гэтыя страты, як-бы яны вялікі ня былі, не маглі даць, ў працягу 26 гадоў, зьменшаньня беларускага жыхарства на 93, 7%.

Разгадку, нагэтулькі катастрафічнага становішча беларускай справы на абшарах сучаснай Літвы, трэба шукаць у варунках палітычных.

Да вайны беларускае жыхарства ня мела сваіх школ. Працэс дэнацыяналізацыі беларускай насельнасьці праводзіўся

праз расейскую школу, расейскі дзяржаўны апарат і праз спаланізаваны касьцёл. Трэба адзначыць, што паланізацыя пашыралася хутчэй, чым русіфікацыя, бо $^0/_0$ паланізаванага каталіцкага беларускага жыхарства большы, чым $^0/_0$ русіфікаванага праваслаўнага беларускага жыхарства.

Па даным перапісі 1897 г. лік беларусоў каталікоў вельмі значны.

| | (У тысячах) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Ус. белар. насельнасьці | Каталікоў | Правасл. | Іншых рэлігій |
| Ковенская губ. . . . | 37,8 | 32,4 | 4,6 | 0,8 |
| у $^0/_0$ $^0/_0$ . . | 100$^0/_0$ | 86,$^0/_0$ | 12,2$^0/_0$ | 2$^0/_0$ |
| Віленская губ. . . . | 891,9 | 522,1 | 365,3 | 4,5 |
| Гарадзенская губ. . . | 705,0 | 213,7 | 490,2 | 1,1 |
| Сувалкская губ. . . | 26,6 | 14,6 | 11,9 | 0,1 |
| **Усяго . . .** | 1.661,3 | 782,8 | 872,0 | 6,5 |
| У $^0/_0$ $^0/_0$ . . . | 100$^0/_0$ | 47,1 | 52,5 | 0,4 |

У паказаных вышэй 4-х губернях амаль палова беларусоў да моманту перапісі 1897 г. былі каталікамі, а па Ковенскай губ. гэты лік беларусоў каталікоў даходзіў да 86$^0/_0$, і таму зусім зразумела вялікая шкоднасьць (для справы беларускага адраджэньня) паланізацыйнага працэсу беларусоў на абшарах незалежнай і акупаванай Літвы.

Справа беларускага адраджэньня пашыралася слаба. Беларусы ня мелі свайго п'емонту, гдзе выковалася-б беларуская культура і распаўсюджвалася ў масы, і таму беларускае жыхарства заставалася бесбаронным перад наваламі суседзяў і слаба супраціўлялася імпэрыялізму і дэнацыяналізацыі з боку апошніх.

Працэс дэнацыялізацыі беларускага жыхарства ад часу ўцелаішчаньня Літоўскаў дзяржаўнасьці не застанавіўся, а хутчэй наадварот.

Яскравым сьведчаньнем гэтаму служаць ніжэйпададзеныя табліцы аб становішчы беларускай асьветы ў Літве.

Статыстыка школьнай справы па адчотам Міністэрства Асьветы.

Вучняў у беларускіх школах з 1921 г. па 1925 г.

| Годы | Хлопчыкаў | Дзяўчынак | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1921 . . . . . . . . . . . . | 67 | 38 | 105 |
| 1922 . . . . . . . . . . . . | 75 | 45 | 115 |
| 1923 . . . . . . . . . . . . | 40 | 18 | 58 |
| 1924 . . . . . . . . . . . . | 20 | 16 | 36 |
| 1925 . . . . . . . . . . . . | 25 | 9 | 34 |
| 1926 . . . . . . . . . . . . | — | — | — |

**Увага рэдакцыі:** У 1925 г. апошняя бел. школа у Манькавішках была зачынена пры пераўтварэньні школьнай сеткі Літвы.

| | %% пісьмен. і паўпісьмен. | | | %% няпісьмен. пачынаючы ад 10 гад. ўзросту |
|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Кабет | Усяго | |
| Усяго жыхарства . | 69,29 | 65,64 | 65,36 | 32,64 |
| Беларусоў . . . | 60,97 | 45,92 | 53,51 | 46,48 |

Лік дзяцей школьнага ўзросту (ад 7 – 13 г.г.)—704, з іх пісьменных—148, паўпісьменных—48 і **зусім няпісьменных 508,** г. зн., няпісьменных 72%; пры гэтым трэба адзначыць, што і гэты невялікі лік беларускіх дзетак атрымлівае асьвету не ў матчыннай мове.

% няпісьменных беларусоў (46,48) пераважвае сярэдні % няпісьменных агульнай насельнасьці Літвы (32,64). Мала гэтага, % няпісьменных беларускіх дзетак (72%) навет пераважвае сярэдні % дарослага беларускага жыхарства. Гэта значыць, што беларускае жыхарства ў Літве ня толькі рэгрэсіруе ў справе нацыянальнай сьвядомасьці, а і ў справе культурнай.

Агульнае становішча беларускага жыхарства, ў параўнаньні з да-вайсковым часам, пагоршылася, асабліва асткі тых беларусоў, якія набылі сабе землі пры дапамозе Сялянскага Зямельнага Банку і ад якіх (па распараджаньню літоўскай улады) гэтыя землі былі адабраны, як ад русіфікатараў.

Нябыло ўзята пад увагу тое, што гэтыя „русіфікатары“ спрадвеку жылі побач з літоўцамі.

Ці-ж можна прымірыцца з гэткаю крыўдаю і зьдзекам над абяздоленым і безбаронным?

Беларускае грамадзянства спадзяецца, што сучасная Ўлада выпрастае памылкі б. ўлады, каб беларус (літоўскі грамадзянін) адчуў, што ён тут не пасынак, а запраўдны сын сваёй Бацькаўшчыны.

Справа літоўска-беларускіх адносін—справа беларускай меншасьці ў сучаснай Літве далей гэтак трываць ня можа і патрабуе свайго грунтоўнага перагляду.

**Настаўнік.**

---

*Януш Косьцевіч*
літоўскі беларус з Палангі.

# ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА ВІТАЎТА.

## ВАЕННЫ ПАХОД НА КРЫМ—ШУКАЦЬ ВЫХАДУ ДА ПАЛУДЗЕННАГА МОРА.

(Працяг).

Ужо лета смагла стэпы панагрэла.
Трава мейсцам зжоўкла, мейсцам пачарнела.
Чуваць, Кіяў блізка—наш Князь хутка будзіць...
Ўсіх справа цікавіць, ўсяк раіць і судзіць.
Старшызна малодшых вайне падвучае,
Перад Князям сілу паказываць мае.
З стэпаў пачалі ваяводы зьезджацца,
Каб Князю з дружынай сваёй паказацца,
Ўсю сілу ў места згарнуць узяліся;
Плытнікі ракою Няпром пасплыліся.—
На рэчцы шырокай плыты пазьвязалі
Канца не пабачыш—ваду ўсю занялі.
Народ каля рэчкі ўвесь час грамадзіцца—
Каней прыганяюць купаць і напіцца.
Там слухаюць сказы аб старых паходах,
Там скокі зрабілі, пайшлі ў харaводах.

Сайшліся без лічбы на глаўным прывале,—
Усюды вяселасьць і пэўнасьць трывалі.

Аж і Князь прыехаў. Ўсё зачудзела,
Як у катлу раптам ўсюды закіпела.
Князь свой смотр назначыў на вялікім полі,
Каб мог наглядзецца на войска даволі.
На гэны смотр войска адусюль сабралі,
І рожныя часьці мейсца пазанялі.

Як раніцай сонца над зямлёй узнялась,
Ўсё войска для смотру ў полі сабралась
Пад шалаш Князёўскі быў і конь паданы,
Як малако белы, прыгожа убраны.
Стольнікі, дружына ля каней стаялі
І выхада Князя цярпліва чакалі.

Выйшаў у кальчузе Князь малоды, гожы
(Як быў у нарадзе, а ні' не пахожы).
Сеў на каня хвацка, дружыне скланіўся
Дый шпарка на поле да войска пусьціўся.
Зараз ваяводы там яго спаткалі
Дый з чэсьцю—паклонам яго прывіталі.
Ен ласкава прыняў даклад аб паходзе,
Кожнаму падзяку злажыў ваяводзе.
Аб'ехалі часьці ўсёй сілы магучай,
Што поле пакрыла нязьмернаю тучай.
Затым да сяродку усе пазьежджаліся,
Навокала Князя штандары сабралі.
Вось Князь затрымаўся, свой меч уздымае—
Любімае войска свае ён вітае.
Штандары да верху сперва ўсе узнялі,
А потым паважна да Князя схілялі.
Не часта у сьвеце можа гэна здацца,
Гукнула ўсё поле: „Мы рады змагацца
„За Літву, за Князя! За Край наш хто, зможець,
„Дык душу і сэрца, жыцьцё сваё зложыць!“

Князь дзесяць дзён зраду даў людзям свабоды,
З плытоў наказ далі усе ваяводы,
Нясьці ўсяго у волю, як піць, так і есьці
За Князя, каб Ен быў ў здароўі і чэсьці.

Кіяўскаму князю стольніка Князь выслаў,
Бяз доўгіх каб спораў і лішніх намыслаў
Ен з Князям Літоўскім лепей ня спрачаўся,
Але з сваім княжствам пакорна паддаўся.
Той ня суперэчыў, на ўсё прымірыўся,—
Памагчы Літоўцам ад сябе згадзіўся.
Князь Вітаўт узяў тут шмат яго народу,
Пасадзіў у Кіяў свайго ваяводу.
Людзям прахарчыцца таксама сабралі
І далей на поўдзень рушыцца пачалі.
Кіяўскаму князю крыўды не зрабілі—
Яго ад наскокаў татар баранілі;
Крыўдзіць літоўцаў татары ня сьмелі,
Бо з завісьцю, з страхам на Літву глядзелі.

III.

## Паход з Кіява да Мора.

Пакуль войска з Князем сядзела, гуляла,
Мокрая у стэпах і восень настала.
Прыйшлось затрымацца да лепшай пагоды,
Калі у паход павядуць ваяводы.

Ішоў час нядрэнна—вясёла і шумна,—
Ваякам удалым ніколі нясумна.
Поўны людзей хаты зіму правадзілі,
Дзяўчата дый бабы знаёмства вадзілі...

Знайшліся бандура ды бубен, цымбалы,—
Стараецца кожны, у чым хто удалы.
Заграе музыка, скакаць ісьці ахвота—
Зімой ня вяліка у вёсцы работа.

Дзяцюкі Літвіны да ўсяго ахвочы—
Не спяць, паюць песьні да самай паўночы
Дый рожныя казкі цікава складаюць,—
За гэта і ласку нават у баб маюць.

Здарыцца—памогуць што-небудзь у хаце
Дык трэба-ж падумаць тут і аб заплаце;
Заплата такая: зьесьці што прыправяць,
Маладое сэрца чым-кольвек забавіць.

Як йскрыпка, бандура у вечар зайграюць,
Кожная дзяўчына сваго хлопца маіць.
Казаў-бы век целы яны сябе знали,
Так хутка знаёмства шчырае паўзялі.
Адзін за другога, дык у агонь скочыць,
Калі адзін скажыць, а другі захочыць.

Нуж, дзе заіграюць, ногі самі скачуць,
Дый старшыя грэху гэнаму прабачуць,
Бо самі калісьці таксама рабілі,
Як балей сіл мелі, маладымі былі.
Дык гэтак дружына свой час правадзіла,
Пакуль на зімоўцы ў гэным краю была.

Дзяўчаты гасьцінцы ў дарогу давалі,
Аздобных рушнікоў шмат павышывалі;
Тут вышываць любяць хвартухі, рукавы,
Узор выробляюць гожы і цікавы.

Літоўскія дзеўкі тэй моды ня маюць—
Прасьцей усё робяць і менш вышываюць;
Ды яны ня маюць агністага вока,
Што так хлапца коле пад сэрца глыбока.

Прышла вясна хутка. Стэп зазяленела.
Сонца, проць Літвы, тут мацней пякло, грэла.
Наказ ваяводзкі: ў паход сабірацца.
Тут з сьлязьмі у вочах трэба развітацца.

Разьвіталісь нашы Літвіны—ваякі,
Хто як змог і чым змог, на спосаб усякі,
Шчырую падзяку той хаце зложылі,
Дзе міла, вясёла ўсю зіму пражылі.

Магучае войска і цэлая сіла
Дарагі край гэны з жалем апусьціла.
На поўдзень дарога цяпер ім вялася,
Шырока грамада уся расплылася.

З канцом лета неяк разьведка знаць дала,
Што блізка татарскай сілы ёсьць нямала.
Сяло, ці як тама авулам завецца,
Трымаець шмат сілы, як відаць, здаецца.

Аж загад ад Князя: ходам затрымацца;
Ізноў ваяводы пачалі з'ежджацца,
Дый сам Князь прыехаў, адбылась нарада,
Ізноў сабралася ваякаў грамада.

Ўходзіць пачыналі ў зямлю, што пад панам
Магутным і моцным царом-Крымскім ханам,—
Ен тут гаспадарыў і кругом меў мора,
Жыў дый вясяліўся, ня знаючы гора.
Нікога ён тутка а ні' не баяўся,
Дый спатыкаць Князя і не спадзяваўся.
Быў, як зьвер сярдзіты для свайго народу,
Ґнаў людзей без жалю у вагонь і воду.
Старшы з ваяводаў Беям называўся,—
Таго дык да сьмерці ўвесь народ баяўся.
Бо ён ня меў нават і чуцьця людзкога,
Біў, дзёр да паўсьмерці, ня жалеў нікога.
Адсякаў галовы, як качан капусты,
Сам грубы як бочка, дый як кабан тлусты;
Як глянеш, адзін страх ад яго здаецца—
Што вось ў кожну пору салам разальецца.
Сам чорны, як воран дый скрыўляны губы,
Толькі і бялеюць крыху вочы, зубы.—
На выгляд так прыкры, як зьмей падкалодны.
Адным словам, быў чалавек ён нягодны.
Паслалі разьведку, падходы паслалі,
Каб тыя як-небудзь языка дасталі,—
А наша разведка таго і чакала:
Пікэт цэлы ханскі у палон забрала.

Палонных татараў аб ўсім распыталі,
Усю сілу у места сабраць наказалі.
Князь двух ваяводаў паслаў для абходу,
Каб ня даць татарам ў Перакоп адходу,
Дый заняць да Крыму важныя дарогі,
Каб адтуль ня далі ніякай падмогі.

К Бею ваяводу сьмелага паслалі,
Ад Князя наказ яму гэтакі далі:

„Каб Хан зямлі бераг даў Літве да мора,
„Каб адказ для Князя свой ён прыслаў хутка,

„Каб мір з Князям вечны падпісаць згадзіўся,
„Каб ніколі ў жыцьці з Літвою ня біўся,
„Каб даў Князю помач, часьць татарскай броні,
„Каб даў чамбул*) войска, дый татарскіх коні,
„Бо цяжка дарога, доўгі пераходы
„Даліся у знакі —нарабілі шкоды.—
„А калі Хан дрэнна наказ той пасудіць,
„Дык Князь сілай возьме і ваяваць будзець“.

(Далей будзе).

18. V. 1924.
Паланга.

# Літва.

13-га жніўня сёл. г. Ковенскі Бел. Нацыянальны Гурток падаў п. Міністру Асьветы дакладную запіску наступнага зьместу:

Пану Міністру Асьветы.

Ковенскага Белар. Гуртка.

## Дакладная запіска.

Згодна афіцыяльнай статыскі беларусоў, грамадзян Літвы, налічваецца 4,5 тысячы, прычым дзяцей школьнага ўзросту 704, з якіх 508 няпісьменных, што складае 72% няпісьменных, —да і тыя, хто атрымліваюць асьвету, адукуюцца не ў матчынай мове. Калі-ж прыняць пад увагу дзяцей-беларусоў, пазбаўляных права Літоўскага грамадзянства (падведзеных пад рубрыку каланістаў-русіфікатараў за тое, што карысталіся дапомагай Сялянскага Зямельнага Банку пры набыцьці сабе зямлі), дык запраўднае становішча з адукацыяй беларускіх дзетак будзе выглядаць яшчэ больш трагічным, —бо гэтыя дзеці прымушаны з малых дзён наймацца ў парабкі дзеля таго, што іх бацькі ня маюць сродкаў іх утрымліваць у сям'і.

Беларускім жыхарствам было складзена некалькі дзесяткаў прыгавараў аб учыненьні белар. пачаткавых школ.

*) Татарская назова вайсковага аддзелу.

Так, прыкладам, былі складзены ніжэйпададзеныя прыгавары аб адчыненьні беларускіх пачаткавых школ:

| №№ па парадку | Назова | | | Калі быў складзен прыгавар аб адчыненьні бел. пач. школы | К-кі дзяц. шк. ўзр. |
|---|---|---|---|---|---|
| | вёскі | воласьці | павету | | |
| 1 | Н.-Александраўка, Завульцы, Майтагалішкі і Паstраўе | Семелішскай | Троцкага | 27-VII-1922 г. | 34 |
| 2 | Балцерышкі | Еўінскай | „ | 14-VIII-1922 г. | 44 |
| 3 | Кроні (Манкавішкі) | Кронскай | „ | 27-VIII-1922 г. | 48 |
| 4 | Татарышкі | В-дворск. | „ | 22-VIII-1922 г. | 41 |
| 5 | Нікраны | „ | „ | 22-VII-1922 г. | 42 |
| 6 | Александраўская Слабада | Туржанскай | Ковенск. | 20-VIII-1922 г. | 100 |
| 7 | Паскуцішкі | „ | „ | „ | 42 |
| 8 | Коўна м. | — | — | 14-X-1922 г. | 16 |
| 9 | Шылаўка | Расіенск. | Расіенск. | 29-VIII-1922 г. | 35 |
| 10 | Паліцішкі | Таўреген. | Уцянск. | 12-IX-1922 г. | 43 |
| 11 | Дойнікі і Кайрышкі | Ужпольскай | „ | 11-VIII-1922 г. | 31 |
| 12 | Мажэйкішкі | „ | „ | 10-VIII-1922 г. | 44 |
| 13 | Эжарэны м. | — | — | 15-VIII-1922 г. | 40 |
| 14 | Вілкомір м. | — | — | 31-VII-1922 г. | 52 |
| 15 | Радзівілішкі | — | Шавельск. | 3-VIII-1922 г. | 65 |

Гэткія пастановы прадаўжаюць паступаць і цяпер, прыкладам, у жніўні сёл. г. атрыманы прыгавары ад некалькіх вёсак, Семелішскай вол. аб адчыненьні беларускіх пачат. школ. Але адчыненьне пажаданых школ да гэтага часу ня зьдзейсьнена, за выняткам Манкавішскай (Кронскай вол., Троцкага пав.) белар. пачатковай школы, якая была адчынена ў 1922 г. і зачынена ў 1925 г., калі ўстанаўлівалася сетка

пачаткавых школ. Ва ўсіх вышэй пералічаных вёсках дзяцей школьнага ўзросту—ад 34-х да 100, ня лічачы ковенскую бел. пачаткавую школу, гдзе поўнага камплекту, праўда, ня было.

Такое становішча беларускай школы ў Літве мы лічым не нармальным—беларускае жыхарства беспадстаўна пазбаўлена элементарных правоў на свае нацыянальна-культурнае разьвіцьцё, гарантаваных Літоўскай Канстытуцыяй, як нацменшасьці.

Абапіраючыся на вышэйскладзенае і ўпанаважаныя Ковенскага Беларускага Нац. Гуртка, мы, ніжэйпадпісаныя, маем чэсьць прасіць Вашага, Пане Міністру, распараджаньня:

1) Узнавіць чыннасьць беларускай пачаткавай школы ў Манкавішках.

2) Адчыніць бел. школы ў гэтым 1926 г. навучальным годзе длябел. жыхароў у 10-ці кілёметравай пагранічнай зоне, якія школы (згодна практыкі Міністэрства Асьветы) ўтрымліваюцца на скарбовы кошт. Абгаварваемыя школы ў першую чаргу адчыніць: у в. Балцерышках, в. Евеніках—Еўінскай воласьці і в. в. Пастраўе і Даўгердзішкі—Семелішскай вол.

3) Адчыніць 2-хкамплектную бел. школу ў Еўі (з выкладаньнем ведаў на сыстэм Дальтоно пляну), якая школа у бучым навучальным годзе магла-б быць пераіменавана у Беларускую прагімназію для беларусоў Троцкага павету.

4) Апроч таго, ў Еўі адчыніць беларускія вучыцельскія курсы.

У дадатак да вышэйзложанага просім назначыць пры Міністэрстве Асьветы рэферента па беларускім справам, як предпалгаецца назначыць рэферэнтаў па гэбрэйскім і польскім справам. Гэткі рэферэнт для беларусоў патрэбен дзеля таго, што беларусы здэнацыяналізаваны царскай уладай і польскім касьцёлам, нацыянальна мала сьвядомы і вельмі мала арганізаваны. Кандыдатаў на вучыцялёў для прасімых белар. школ Ковенскі Бел. Нацыянальны Гурток можа, з Вашай згоды, рэкамендаваць.

Падпісалі: **М. Рагевіч.** **Е. Гайдукевіч.**

Коўна
13-IX-26 г.

**Культурная Рада.** Пасьля II кангрэсу (гл. „Покліч“ №4(6)). Культурнай Сувязі абраная на кангрэсе рада мела 5. IX. сёл. г. першае паседжаньне. Прээзсам выбран праф. др. Лашас, віцэ-прээзсамі др. I. Шлюпас і доц. Аўгустаціс, сэкрэтарамі М. Бразаускас і Ласьцене.

**Унівэрсытэт,** На 1926-27 навучальны год абраны ў сэнат унівэрсытэту рэктарам орд. проф. М. Біржышка, прарэктарам орд. праф. Міх. Рэмер, сэкрэтаром орд. праф. Сьцяпан Калупайла, і дэканамі факультэтаў: тэолёгіі і філёс. орд. праф. Б. Чесніс, Эвангеліч, теолёг. доц. П. Якубенас, гуманіт. навук —орд. праф. В. Крэве-Міцкевіч, правн.—орд. праф. П. Леонас, матэм.-прыродазн. экстр. праф. Ж. Жэмайтіс, медіц.—экстр. праф. Ў. Лашас, тэхн.—орд. праф. П. Іодяле.

**Самаахвотнікі арганізуюцца.** У Коўне і іншых мейсцох адбыліся нарады ініцыятыўных групаў самаахвотнікаў літоўскага войску, што служылі у ім у 1918—1919 г.

Яны рыхтуюцца арганізаваць Сувязь самаахвотнікаў. Беларусам-вайсковым, што лічацца цяперака у запасе, трэба памысліць аб арганізацыі сваёй беларускай сувязі, альба ўпісывацца у літоўскую сувязь. Большасьць беларусоў служыла у літоўскім войску як самаахвотнікі.

**Выстаўка.** У м. Таўроге адбылася павятовяя сел.-гасп. выстаўка. Праз два дні была больш як 5000 людзей са Жмудзі і з Клайпеды.

# Радавая Беларусь.

## Інбелкульт.

### Аб Інстытуце Беларускай Культуры.

(З дакладу старшыні ІБК т. Ігнатоўскага на пасяджэньні СНК БССР 7-га ліпеня 1926 г.).

**Структура Інбелкульту. Краязнаўчыя арганізацыі злучаюць дзейнасьць кваліфікаваных культурных працаўнікоў з шырокімі народнымі масамі. Шпаркі развой культурнай дзейнасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі. Інбелкульт павінен стаць Беларускай Акадэміяй Навук.**

Інстытут Беларускай Культуры працуе ў сваіх сэкцыях і камісіях. Больш сур'ёзная праца вядзецца ў камісіях, якія маюць больш сталы штат і матар'яльна лепш забясьпечаны, чымся ў сэкцыях. У камісіях вядзецца такая работа, якую трэба тэрмінова выканаць. Сэкцый па ўсіх аддзелах налічваецца 17, а камісій—18.

Апрача таго, Інстытут Беларускай Культуры мае аддзелы: аддзел яўрэйскай культуры, аддзел польскай культуры і г. зв. агульны аддзел. Прэзыдыум Інбелкульту зараз складаецца з 9 асоб, а навуковая рада ІБК складаецца з прэзыдыуму і прадстаўнікоў сэкцый, у якую агулам уваходзіць цяпер 25 26 асоб. Члены Інбелкульту па сваёй кваліфікацыі падзяляюцца на тры катэгорыі: сталыя члены, члены-супрацоўнікі і члены-карэспандэнты. Сталых членаў зараз налічваецца 77, членаў-супрацоўнікаў 69 і членаў-карэспандэнтаў—60, а ўсяго 206 асоб; з гэтага ліку беларусоў—121 яўрэяў—45, палякаў—23, і інш. нацыянальнасьцяй—17. Па партыйнаму складу: партыйцаў—72, беспартыйных—134.

З дапаможных устаноў Інбелкульт мае рэдакцыйна-выдавецкі аддзел, якім кіруе намесьнік старшыні Інбелкульту; таксама расьце паступова бібліятэка, куды пападаюць кніжкі, патрэбныя габінэтам, сэкцыям і камісіям. Зараз у бібліятэцы налічваецца 12 тыс. томаў кніжак, рукапісаў і зборнікаў.

Зараз перад намі паўстае пытаньне аб утварэньні музэю прыроды. І дзеля гэтага вядуцца перагаворы з адпаведнымі ўстановамі. Інстытут мае матар'ялы па глебазнаўству, па

зоалёгіі, але іх няма дзе разьмясьціць, з прычыны адсутнасьці належнага памяшканьня.

Поруч з агульнымі дасягненьнямі ў дзейнасьці ІБК, трэба таксама спыніцца на дзейнасьці цэнтральнага бюро краязнаўства, якое зьяўляецца адной з камісій ІВК. У гэтай галіне мы маем да 170 краязнаўчых арганізацый, з якога ліку працуе больш менш стала 120-125, якія яднаюць да 6000 членаў. Гэтыя арганізацыі няроўнамерна разьмеркаваны па акругах; некаторыя акругі як Віцебская, Бабруйская больш разьвінулі сваю працу; іншыя акругі, як Мазырская і Слуцкая—адстаюць На краязнаўчыя таварыствы трэба будзе зьвярнуць вялікую ўвагу, бо праз іх Інбелкульт наладжвае сувязь з шырокімі народнымі масамі, і ўцягвае ў навукова-дасьледчую дзейнасьць розных культурнікаў і актывістаў на мясцох.

Інбелкульт ужо сабраў шмат фольклёрнага матар'ялу, народных песень, казак. Праз некаторы час будзе магчымасьць прыступіць да выданьня мясцовых слоўнікаў.

Праца Краязнаўчага Бюро мае вялікае значэньне, бо яна сьцісла злучае высока кваліфікаваныя верхавінкі з масавымі дасьледчыкамі. Зараз мы назіраем рост гэтых арганізацый, прыкмячаецца шпаркі ўзрост самадзейнасьці мас. На гэты рух Інбелкульт зьвярнуў сваю ўвагу і прадугледзіў па каштарысу матар'яльную дапамогу на працу арганізацый краязнаўства.

Што-ж датычацца працы аддзелаў, дык больш шырока бязумоўна разьвінуў сваю дзейнасьць яўрэйскі аддзел. Ен падрыхтаваў свой зборнік, які будзе мець вялікую каштоўнасьць. Гэта сьвежы матар'ял добра апрацованы; таксама ўкладаецца слоўнік яўрэйска-беларускі і беларуска-яўрэйскі.

Польскі аддзел падрыхтоўвае да друку матар'ял паўстаньня 1863 г. на Беларусі. Гэта будзе вельмі каштоўны навуковы матар'ял, які нідзе ніколі не зьяўляўся.

Цяпер перад намі паўстае пытаньне аб утварэньні латыскага аддзелу. Мы просім дазволу СНК распачаць у гэту зімку арганізацыю ў ІБК латыскага аддзелу.

Трэба таксама спыніцца на выдавецкай справе Інбелкульту. За гэты час надрукавана 65 аркушоў, ляжыць гатовых у друкарні, якія прашлі праз карэктуру і рэдактуру—78 аркуш. Наша Дзяржаўнае Выдавецтва не пасьпявае выконваць нашы заказы, і мы адправілі ў Ленінград 19 аркушоў. Такім чынам, наша выдавецкая справа затрымліваецца

па прычынах, якія ад нас не залежаць.

Нам патрэбна свая ўласная друкарня і гэта справа перададзена на разгляд Эканамічнай Нарады.

У канцы трэба спыніцца на тым, якую ролю павінен граць Інстытут Беларускай Культуры.

Мы лічым, што паступова трэба прысьці да таго, каб ІБК рэарганізаваць у Беларускую Акадэмію Навук, што пацьвярджаецца і рэзалюцыяй прэзыдыуму ІБК СССР па дакладу беларускага ўраду. Але ЦВК жадае захаваць і тады прынцып уцягваньня ў навуковую дзейнасьць шырокіх масс. Мы цяпер думаем аб тым, як арганізаваць ІБК, каб адтуль была магчымасьць выдзеліць культурны асяродак. Зусім слушна, што праэкту прадставіць ня можам тым больш, што ня маем адпаведнае пастановы ад беларускага ўраду.

---

## ПАСТАНОВА

## Савету Народных Камісараў БССР.

### Аб Інстытуце Беларускае Культуры.

Заслухаўшы даклад старшыні Інбелкультуры т. Ігнатоўскага У. М. аб дзейнасьці Інстытуту за мінулы час, Савет Народных Камісараў—**пастанаўляе:**

1. Прызнаць, што з моманту сваёй рэарганізацыі Інстытут Беларускай Культуры з посьпехам выконвае ўзложаную на яго задачу па ўдасканаленьні навуковай і культурнай працы на Беларусі, па дасьледаваньні і вывучэньні эканамічных, прыродных і сацыяльна гістарычных каштоўнасьцяй беларускага народу і ўсіх нацменьшасцяй, насяляючых Беларусь. У выніку гэтай працы адзначаецца ўзмацненьне ўплываў Інбелкульту на ўсю навуковую і дасьледчую дзейнасьць у рэспубліцы.

2. У зьвязку з агульна-дзяржаўным уздымам Беларусі і буйным разьвіцьцём яе эканамічнага і культурнага будаўніцтва, лічыць неабходным з 1926-27 акадэмічнага году надаць Інстытуту Беларускай Культуры напрамак да паступовага ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук, не пакідаючы пры гэтым прынцыпу сувязі яго праз Нацыянальныя аддзелы, Сэкцыі, Навуковыя Таварыствы і Бюро Краязнаўства з шырокімі працоўнымі масамі. Адначасна лічыць патрэбным, каб Інбелкульт і надалей яднаў наўкола

сябе лепшыя навуковыя сілы і ўзмацняў існуючую сувязь з адпаведнымі дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі

3. У мэтах больш поўнаг вывучаньня паасобных культур на Беларусі, прыступіць да арганізацыі пры Інбелкульце, побач з яўрэйскім і польскім аддзеламі,—аддзелу латыскага.

4. У сувязі з паглыбленьнем дзейнасьці Інбелкульту, павялічаньнем яго значэньня, як Усебеларускае Навуковае Дасьледчае Інстытуцыі, у мэтах абмену ведамі і дасягненьнямі, лічыць неабходнай сьціслую сувязь яго з Акадэмічнымі ўстановамі паасобных Саюзных Рэспублік і лічыць пажадным навуковае супрацоўніцтва яго з Акадэмічнымі Інстытутамі замежных дзяржаў.

5. Для забясьпечаньня навукова-дасьледчай працы Інбелкульту, асабліва ў галіне вывучэньня прыроды і матер'яльнай культуры Беларусі, лічыць неабходным арганізаваць **„Музэй Природы“** усебеларускага значэньня.

6. Для бесперабойнага выконваньня навукова-выдавецкага пляну Інбелкулту, — даручыць яму распрацаваць пытаньне аб заснаваньні ўласнай друкарні акадэмічнага тыпу.

**Нам Старшыні Савету Народных Камісараў БССР М. КАРКЛІН.**

**Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР М. МАРОЗ.**

10 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб беларускім правапісе.

Справа аб удасканаленьні беларускага правапісу мае вялікія труднасьці. У сучасны момант у аснову этымалёгіі, сынтаксу і ўтварэньня слоў у беларускай мове паложана граматыка, пабудаваная вядомым праф. Б. Тарашкевічам.

Паднялося пытаньне аб удасканаленьні правапісу бел. мовы, аб унясеньні некаторых паправак у правапіс і аб тым, як пісаць некаторыя словы—праз „а“ ці „о“.

Па гэтай справе вынікла дыскусія. Але нічога навыдзчайнага ў гэтым няма. Усе памятаюць, якія гарачыя спрэчкі ў расейскай навуцы і друку ўзбуджаліся па такіх драбніцах, як літара „ъ“, справа даходзіла да буйных навуковых канфліктаў і адкрытай барацьбы праз друк.

Ня ўсе ведаюць, што ў сучасны момант у Польшчы ёсьць два правапісы—стары і новы і што кожны з іх мае сваіх прыхільнікаў. Вялікую барацьбу вытрымала і чэская навука пры ўвядзеньні новай арфаграфіі; тое самае было і ў Юга-

Славіі, зараз ёсьць на Украіне і г. д. Няма нічога дзіўнага, што ў Беларусі ідуць гарачыя спрэчкі аб фанэтычных і арфаграфічных пытаньнях.

Да сучаснага моманту Беларусь далёка зайшла наперад. Пісьменнасьць яе вялікая. Культурныя заваёвы даволі багаты. У гэтай справе яна ідзе амаль разам з Украінай і далёка ззаду заставіла такія нацыянальныя рэспублікі, як Азэрбайджан, Узбэкістан ды інш.

Асновы беларускага правапісу, як гаварылася вышэй, даўно ўжо апрацованы. Справа толькі ў замацаваньні і апрацоўцы некаторых дакладнасьцяў. Нават кожная дробязь выносіцца на абсуджэньне пасьля дакладнай навуковай апрацоўкі. Над вырашэньнем фанэтычных і арфаграфічных пытаньняў працуе цэлы шэраг філёлёгаў, і ў бліжэйшы час іх праца павінна завяршыцца спэцыяльнай акадэмічнай канфэрэнцыяй вучоных па правапісу.

Інбелкульт мяркуе склікаць гэту канфэрэнцыю ў бліжэйшую восень, прычым на канфэрэнцыю будуць запрошаны выдатнейшыя спэцыялісты-вучоныя ня толькі Беларусі, але Украіны, Польшчы, Чэха-Славакіі ды інш, якія займаюцца пытаньнямі беларусазнаўства.

Зараз робіца падрыхтоўчая праца ў правапісна-тэрміналёгічнай камісіі Інбелкульту, дзе зьбіраюцца адпаведныя матар'ялы і апрацоўваюцца тэзісы.

Толькі па сканчэньні працы гэтай канфэрэнцыі будзе пастаўляна пытаньне аб тых ці іншых удасканаленьньнях правапісу беларускай мовы на практычны грунт.

Справа гэта вельмі сур'езная і патрабуе спакойнага і аўтарытэтнага падходу.

Вядома, што шырокія масы працоўных зацікаўлены гэтым пытаньнем. Кожны можа прыняць удзел у вырашэньні яго, бо паседжэньні сэкцый Інбелкульту адчынены для ўсіх жадаючых.

## Вяліка-Лятчанскі батанічны сад.

### Новыя віды гародніны.

Склады насеньня гэтага саду сёлета значна павялічыліся. Ранейшыя калекцыі насеньня складаліся з тысячу відаў, а сёлета паступіла яшчэ 556 новых відаў, галоўным чынам, каштоўных замежных відаў гародніны, якія атрыманы праз балотную станцыю два гады таму назад. Тут ёсьць шмат гародніны, якая ў Беларусі ніколі не засявалася, напр., віды буракоў (39 гат.), фасолі (62), капусты (64), салаты (30), рэпы (37), морквы (29), гароху (30), цыбулі, сэльдарэю, мангольту, цыкорыі (13), парэю (9), пас-

тарнаку (7), тамату (20), шпінату (3), бручкі (10), пятрушкі (5), спаржы (4), скорцонэры (салодкі корэнь 2), пэрвэлю (2), францускага гарбуза „поцірон“ (2), шчаўя (3), арцішокаў (3), гуркоў (6) і рэдзькі (2).

### Школка дрэў.

Высаджаны ў грунт найбольш каштоўныя чужаземныя гатункі дрэў (59 відаў—350 штук). Апроч таго, высаджаны дэкаратыўныя сеянцы (40 відаў— каля 200 штук), фруктовыя сеянцы—дзічкі расьпікіраваныя (15.000) і нерасьпікіраваныя— (15.000). Апроч таго зроблена прышчэпка рэдкім лясным і паркавым чужаземным пародам (251). Прышчэпак леташняга году налічваецца 100 штук (35 відаў).

Выяўлены новыя формы расьлін, якія маюць агульную цікавасьць, бо да гэтага часу яны зусім нявывучаны і зьяўляюцца новым матар'ялам для вывучэньня (17).

Трэба адзначыць, што пажадана наладзіць сёлета ўвосень выстаўку прадуктаў гэтага саду, але гэта справа можа быць абмяркована пазьней, бо цяперашні сухмень можа затрымаць разьвіцьцё гародніны.

### Культура сэлекцыйнага збожжа.

Трэба спыніцца на вельмі цікавых вопытах высевак новых сартоў пшаніцы. Гатункі гэтай пшаніцы атрымаліся шляхам уважлівага падбору і сэлекцыяй, якія цягнуцца некалькі апошніх год. Ураджай разьмяркован па сваіх асаблівасьцях на некалькі форм, якія адрозьніваюцца паміж сабою морфалёгічна і фізыялёгічна. Так, існуе асобны від пшаніцы над назвай „Беларусь“ (яе арыгінатарам зьяўляецца т. Даронін, загадчык саду, які даў ёй назву „Беларусь“); гэты гатунак пшаніцы адзначаецца нязвычайнай выносьлівасьцю і прадукцыйнасьцю на сухой і цяжкай глiністай глебе. Другі гатунак пшаніцы, які ня мае яшчэ назвы, выразна адзначаецца выносьлівасьцю ў адносінах вымачкі.

Такіх гатункаў пшаніцы каля 15 і яны патрабуюць далейшага вывучэньня.

## Экспэдыцыя па вывучэньні фауны Беларусі.

### Вынікі экспэдыцыі.

Вярнуўся з экспэдыцыі па вывучэньні фауны Беларусі праф. Фядзюшын, які працаваў у працягу месяца ў Нараўлянскім і Тураўскім раёнах, Мазырскай акругі. Экспэдыцыя сабрала матар'ялы, галоўным чынам, па арніталёгіі.

Есьць вельмі цікавыя фаўністычныя знаходкі (птушак—300, іншых жывёлін—каля 30).

**Аб стане дубовых лясоў.**

Праф. Фядзюшын зазначае, што ў Мазырскай акрузе знаходзяцца вялікія дубовыя лясы, якія лепш захованы ў параўнаньні з дубовамі лясамі сярэдняй Беларусі.

Асабліва добра захаваны дубовыя лясы ў Азярышчанскім лясьніцтве.

**Яўрэйскі часопіс.**

Яўрэйскі аддзел ІБК выпусьціў з друку часопіс, які прысьвечан стану яўрэйскай культуры на Беларусі.

У часопісы супрацаўнічаюць праф. Сосіс, т.т. Аўсьлендер, Ромбах і інш., а таксама навуковыя працаўнікі з па-за межаў СССР.

**Аб звароце архіўных музэйных каштоўнасьцяў БССР.**

СНК СССР пастанавіў запрапанаваць СНК РСФСР зьвярнуць Беларускаму Дзярж. Музэю вывезеныя ў Смаленск з Горы-Горак 25 карцін першатвораў і копій італьянскіх і нідэрляндзкіх мастакоў XVI-XVII стагодзьдзяў, ці па згодзе з урадам БССР кампэнсаваць Бел. Дзярж. Музэй адпаведна падабранай калекцыяй карцін старых мастакоў з музэйнага фонду РСФСР.

НК Асьветы РСФСР прапануецца падабраць для Бел. Дзярж. Музэю адпаведныя калекцыі па расейскаму мастацтву з фонду РСФСР.

Абавязаць установы, у якіх знаходзяцца: а) шрыфт і абсталяваньнн старажытнай друкарні (Гомельскага Музэю), б) старажытнае працы тора (з ліку старажытных рэчаў якія атрымаў у падарунак Мікалай II-гі ў 1904 г.), в) масыўная ханукальная лямпада любавіцкага рабіна Шнэйэрсона, г) аздоба да торы, вывезеная з Менску, д) крыж заслаўскай царквы XVII стагодзьдзя з надпісам,— усе гэтыя рэчы вярнуць Бел. Дзярж. Музэю.

**Прапанова з Львову.**

„Т-ва Ўкраінскага Мастацтва“ з Львову (Галіцыя) зьвярнулася ў ІБК з просьбай выслаць выданьні Інс-ту: „Гісторыя Беларускага Мастацтва“ і „Археолёгічная карта Беларусі“. Апроч таго, „Т-ва Ўкраінскага Мастацтва“ просіць высылаць у абмен все выданьні па мастацтву, археолёгіі і этнаграфіі Беларусі.

**Знаходка рукапісных кніжак.**

У ІБК паступіла з в. Гарадзец, Быхаўскага р., Магілёўскае акругі, 3 рукапісныя кнігі, прысланныя т. Тодарам Мельнікаўскім, якія былі знайдзены ў царкве памяненай вёскі. Кнігі адносяцца да 16-17 стагодзьдз.

Адна з кніжак—акафіст, дзьве іншыя—служобна - царкоўныя кніжкі.

**Праца вайсковай камісіі.**

23-га ліпеня ў ІБК быў прадстаўлен даклад аб працы вайсковай камісіі, якой было даручана апрацаваць вайсковую тэрміналёгію, пераклад і выданьне вайсковых статутаў на беларускай мове.

Камісія з пачатку сёлетняга году выдала на беларускай мове і разаслала па вайсковых часьцях наступныя кнігі: „1-ая частка часовага стралковага статуту“ (апісаньне стральбы) і 3-ю частку гэтага-ж статуту. З друку выходзяць складзеныя на беларускай мове „Часовы дысцыплінарны статут“ і „Часовы баявы статут.

Здан у друк „Часовы стралковы статут“, частка 2-ая.

Падрыхтавана да друку на беларускай мове апісаньне кулямёту сыстэмы „Максым“.

**Беларуская мова ў чыгуначных школах.**

Пастаноўлена перайсьці да выкладаньня на беларускай мове ў 3-х групах працоўных школ чыгуначнікаў.

Адначасна распрацоўваецца шэраг практычных мер па нацыянальным пытаньні.

## Прамысловасьць, сельская гаспадарка і каапэрацыя.

**Емкасьць рынку і таваразварот у БССР за 1925-26 год.**

Каштоўнасьць рыначнай с.-г. прадукцыі БССР за 1925-26 год, згодна даных аб фактычных загатоўках на 1-е чэрвеня, складае 61.130.000 руб. (на 28,9 проц. больш, чым у мінулым годзе).

Емкасьць рынку ў прамтаварах на 1925-26 год, на аснове даных аб розьнічным таваразвароце дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый за першыя тры кварталы сёл. году і даных ЦСУ аб закупцы сялянствам тавараў за першыя паўгодкі сёл. году, вылічан ў 33.256.000 руб. Па падрахунку размераў таваразвароту за 1925-26 год, розьнічны гандаль вясковай каапэрацыі выяўляецца ў суме 48.692.200 руб. У сувязі з тым, што па справаздачах каапэрацыйнай сыстэмы каля 19 проц. звароту нізавой сеткі прыходзіцца на аптовы зварот с.-г. прадуктаў, што дае суму 9.252.800 руб., то чысты зварот па прамтаварах нізавой каапэрацыйнай сеткі выявіцца ў суме 39.446.400 руб.

Прымаючы пад увагу, што вясковая каапэрацыя ахоплівае 60 проц. вясковага таваразвароту, можна лічыць, што агуль-

ная ёмкасьць вясковага рынку на прамтавары ў сёлетнім годзе выявіцца ў суме 65.744.000 р.

Увесь-жа розьнічны зварот па БССР у сёл. годзе выявіцца дапушчальна—у 168.335.000 р.

Дапуськаючы, што процант удзелу с.-г. прадуктаў ва ўсім розьнічным звароце будзе такіж самы, як у мінулым годзе, увесь розьнічны зварот па прамтаварах выявіцца ў суме 137.530.000 руб., з якіх на вясковы рынак прыходзіцца 65.744.000 руб., і на гарадзкі —71.786.000 руб.

Патрэбы нашага рынку ў прамысловым сырцу для бягучага году ўзяты арыентыровачна ў разьмерах мінулага году. Пры гэткіх умовах ёмкасьць рынку БССР у прамтаварах на 1962-26 год выявіцца ў 186.567.000 р.

Дапушчальны завоз асноўных прамтавараў у 1925-26 г., на аснове фактычнага завозу за кастрычнік-май, вызначаецца: па тэкстылю — у суме 22.030.000 руб., па баваўнянай ткапі—16.590.000 руб., па іншай мануфактуры—5.440.000 руб., па мэталатаварах—9.000.000 р., па цукру—8.000.000 руб., па скураных таварах—7.7800.000 руб., па аконнаму шклу — 520.000 руб., па махорцы— 2.200.000 руб., па сельска-гаспадарчых машынах—3.000.000 руб. і па газе—1.665.000 руб.

Агульная ёмкасьць рынку БССР па 10 аснаўных прамтаварах выяўляецца у суме 61.907.000 руб., што складае 44,3 проц. усяе ёмкасьці.

Дапушчальны завоз асноўных прамтавараў у БССР асноўнымі дзяржаўнымі каапэрацыйнымі арганізацыямі па прадугледжанаму завозу за 1925-1926 год выявіцца ў суме 41.941.000 руб. (у 1924-25 г. было ўсяго завезена на — 30.952.000 руб.). Такім чынам завоз 9 відаў асноўных прамтавараў азначанымі арганізацыямі ў сёлетнім годзе павялічыцца на 35,5 проц. у параўнаньні з 1924-25 г., хістаючыся па асобных таварах ад 130,8 проц. (па с.-г. машынах) да 20,2 проц. (па запалках). Што датычыцца мэталатавараў і аконнага шкла, то завоз апошніх зьменшыўся, даўшы паніжэньне папершых—16,2 проц. і па-другіх—12 проц.

Разьмер таварнасьці с.-г. прадуктаў за 1925-26 г. вызначан Наркамгандлем, выходзячы з даных пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР. Згодна гэтага пляну, таварнасьць сельскай гаспадаркі за пяцігодзьдзе ўзрастае на 90.5 проц., г. зн. штогодны прырост таварнасьці складае ў сярэднім 18,1 проц.

## Емкасьць рынку і тавараварот БССР у 1926-27 г.

**(Кантрольныя лічбы Нар. Кам. Гандлю БССР).**

Бяручы пад увагу, што прырост тavailable таварнасьці ў гады будаўнічага пэрыяду сельскае гаспадаркі будзе менш інтэнсыўным, чымся ў першыя гады пэрыяду адраджэньня (прырост таварнасьці за 24-25 год і 25-26 год—27,3 процанта і 28,9 процанту), Народны Каміс. Гандлю лічыць, што ў 1926-27 годзе прырост таварнасьці выявіцца ў разьмеры 24 процантаў, такім чынам, таварнасьць сельскае гаспадаркі БССР выявіцца ў суме 75.801 200 руб.

Рост ёмкасьці гарадзкога рынку ў сваім тэмпе будзе больш адставаць, чым рост вясковага рынку. Арыентыровачна Народны Каміс. Гандлю ўзяў прырост ёмкасьці гарадзкога рынка ў разьмеры 50 процантаў ад прыросту за 1925-26 год, а па сельскаму рынку—з паніжэньнем на 15 пр. Емкасьць рынку прамысловага сырцу дасьць (па кантрольных лічбах ВСНГБ 203.865.000 руб.

Азначыць ёмкасьць рынку БССР на 1926-27 год па ўсіх таварах у паасобку немагчыма. Аднак, па 15 асноўных прамтаварах ёмкасьць рынку можна арыентыровачна вызначыць ў суме 95.724.000 руб.

Па паасобных таварах ёмкасьць рынку вызначаецца гэткім парадкам:

### На тэкстыльных таварах.

Грунтуючыся на тым, што спажывецкі попыт у 1926-27 годзе павялічыцца ня менш, чым на 25 процантаў на баваўняныя тавары і на 35 процантаў на суконнакамвольныя тавары, ёмкасьць рынку вызначаецца ў суме 34.000.000 руб.

### Па мэталётаварах.

Увесь спажывецкі попыт, разам з патрабаваньнямі прамысловасьці ў 1925-26 годзе складаў 8.316.000 рублёў.

Павялічэньне патрабаваньня на 1926-27 год на мэталётавары чакаецца да 50 процантаў, і, такім чынам, ёмкасьць вызначыцца ў суме—12.000.000 руб.

Заяўкі дзяржаўна-каапэрацыйных арганізацый і прамысловасьці на 1926-27 год вызначыліся ў суме 10.500.000 р. бяз вучоту патрабаваньня прыватнага рынку.

### Па сельска-гаспадарчых машынах.

Дапушчальная рэалізацыя скураных тавараў дзяржаўна-каапэрацыйнымі арганізацыямі ў 1925-26 годзе вызначаецца ў суме 5.106.000 рублёў пры сярэднім задавальненьні попыту на 60 процантаў. Увесь спажывецкі попыт у 1925-26 г. ацэньваецца ў суме 8.510.000 р.

Павялічэньне патрабаваньняў на 1926-27 год чакаецца да 50 проц., і ёмкасьць арыентыровачна вызначаецца ў суме 12 млн. руб.

**Па цукру.**

Дапушчальная рэалізацыя за 1925-26 год вызначаецца ў суме каля 800.000 руб., што дае павялічэньне супроць 1924-25 г. на 33,5 проц.

Емкасьць рынку БСБР на 1926-27 год арыентыровачна вызначаецца ў разьмеры 1.080 вагонаў, бяручы пад увагу, што рост спажывецкага попыту ў 26-27 годзе будзе роўны росту ў 25-26 г.

**Па солі.**

Павялічэньне спажывецкіх патрабаваньняў на 26-27 год арыентыровачна вызначаецца ў 10 процантаў. Емкасьць арыентыровачна складае 3000 вагонаў.

**Па газе.**

Дапушчальная рэалізацыя газы ў 1925-26 годзе вызначаецца ў суме каля 900 тысяч пудоў. Павялічэньне пакупное здольнасьці на 25 процантаў. Емкасьць арыентыровачна складаецца ў разьмеры 1.125.000 пудоў—на 2.093.000 рублёў.

**Па аконнаму шклу.**

Патрэба ў аконным шкле на 1925-26 год арыентыровачна вызначаецца ў разьмеры 11.300 скрыняў—на 580 тысяч руб.

Павялічэньне пакупное здольнасьці ў 1926-27 годзе мае дасягнуць 25 процантаў. Емкасьць рынку вызначыцца ў ліку каля 280 вагонаў.

**Па запалках.**

Павялічэньне пакупное здольнасьці арыентыровачна вызначаецца ў колькасьці 86.2000 скрыняў—на 033.000 рублёў.

**Па папіросах і тытуну.**

Павялічэньне пакупное здольнасьці у 1926-27 годзе чакаецца да 25 процантаў ёмкасьць рынку арыентыровацца вызначаецца ў 750.000.000 курыцельных адзінак на 6.000.000 руб.

**Па махорцы.**

Емкасьць рынку ў 1925-26 годзе была вызначана ў 250 вагонаў.

Павялічэньне пакупное здольнасьці ў 26-27 годзе чакаецца на 25 процантаў, і ёмкасьць вызначаецца у 128.000 скрыняў —на 2.812.000 руб.

# Заходняя Беларусь.

## Да сьвяткаваньня юбілею беларускае прэсы.

Ладжанае Беларускім Нацыянальным Камітэтам сьвяткаваньне 20-лецьця нарадзінаў беларускае прэсы, якое было сьпярша вызначана на 19-га верасьня, адбудзецца ў суботу 18-га верасьня ў 6 гадз. папалудні ў памяшчэньні Камітэту— Віленская 12, кв. 6.

Праграма абходу будзе складацца з рэфэрату грам. А. Луцкевіча аб нарадзінах, гісторыі разьвіцьця беларускае прэсы і аб значэньні яе ў беларускім адраджэнскім руху,—а такжа з прамоваў запрошаных прадстаўнікоў грамадзянства і прэсы ўсіх нацыянальнасьцяў краю.

## Агульны сход т-ва беларускае школы.

У сераду, 8 верасьня, адбыўся агульны сход Т-ва дзеля перавыбараў Галоўнае Управы і Нагляднае Рады—згодна з вымогамі нова зацьверджанага статуту. На парадку дня стаялі такжа справаздача дэлегацыі (ў складзе: Р. Астроўскі і А. Трэпка), езьдзіўшае ў Варшаву да прэм'ера і да міністра асьветы—ад імя Т-ва.

З справаздачы выясьніліся дужа ярка адносіны ўраду „маральнае санацыі“ да меншасьцяў у Польшчы наагул, бо-ж беларусы выступалі ў прэм'ера разам з дэлегатамі ад жыдоў і літвіноў. Выслухаўшы дамаганьні дэлегацыяў аб патрэбе завясьці спэцыяльныя аддзелы для меншасьцяў у міністэрстве асьветы і прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў у куратарыумах Зах. Беларусі,—аб адкрыцьці пачаткавых школ у беларускай, жыдоўскай і літоўскай мовах на дзяржаўны кошт, аб правох сярэдніх школ—для вучняў і вучыцялёў—і г. д., пан Бартэль нічога памыснага не адказаў.

Ня менш цяжкое ўражаньне вынесла дэлегацыя і з гутаркі з міністрам асьветы Суйкоўскім, які напярэдадні быў прыняў беларусаў і на ўсе дамаганьні адносна да беларускіх школаў адказваў, што ён нічога ня можа, хоць-бы і хацеў...

А назаўтрае, калі ў назначаны перш самым-жа міністрам час да яго зьявіліся дэлегаты жыдоў і літвіноў, п. Суйковскі неўспадзеўкі зусім адмовіўся прыняць іх...

Характэрную інфармацыю аб адносінах новага ўраду да беларусоў і іх дамаганьняў даў прысутны на сходзе пасол Валошын. Паводле ягоных слоў, ўраз-жа пасьля маёвага перавароту да п. Бартля пайшлі паслы Ярэміч і Рагуля. Прэм'ер прыняў іх так „міла", што ў выніку гэтага, як ужо ведама нашым чытачом, зьявіліся стацьці ў „Сялянскай Ніве", поўныя надзеі на дабрадзействы польскае дэмакратыі... Паміж іншым п. Бартэль прасіў названых паслоў, каб крыху пазьней, як ужо ўмацуецца новы ўрад, прышлі да яго ізноў з канкрэтнымі дамаганьнямі. „Тады—казаў прэм'ер—я вам скажу: гэта будзе споўнена, аб гэтым падумаем, а гэнага зрабіць ня можам"... Вось-жа, калі пайшлі да пана Бартля другі раз, урад аказаўся ўжо настолькі ўзмацаваўшымся, што прэм'ер папросту не захацеў з імі і гаварыць, ды іх ня прыняў...

Агульны сход сябвоў Т-ва Беларускае Школы, выслухаўшы справаздачу сваіх дэлегатаў (грам. Астроўскага і Трэпкі), прыняў гэткаю рэзалюцыю:

„Прымаючы да ведама даклад дэлегацыі, езьдзіўшае ад імя Таварыства Беларускае Школы да прем'ера Бартля і міністра асьветы Суйкоўскага,—Агульны сход Т-ва сцьвярджае' што ў дадзены мамэнт кіруючыя ўрадавы сфэры не выяўляюць жаданьня палепшыць несьцярпімае палажэньне беларускага школьніцтва. Сход пратэстуе проці дэманстрацыйнага нежаданьня Ураду ня толькі здаволіць слушныя дамаганьні беларусоў, але і паважна падыйсьці да разьвязаньня даўно насьпеўшага пытаньня аб беларускай дзяржаўнай школе.— Сход пастанаўляе—у сувязі з выясьніўшымся палажэньнем— зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыйную працу ў справе прыватнага школьніцтва і выкананьне гэтага даручае Галоўнай Управе Т-ва.—Гэтую сваю рэзалюцыю Сход пастанаўляе падаць да ведама беларускага парляманцкага прадстаўніцтва з просьбай учыніць з свайго боку адпаведныя крокі".

На сходзе адбыліся перавыбары Галоўнае Управы, у выніку якіх аказаліся выбранымі: старшыня Р. Астроўскі, віцэстаршыні—сэнатар Уласаў і А. Трэпка, скарбнік—М. Кепэль, заступнік яго—М. Сіняўскі, сэкрэтар—Я. Шнаркевіч, заступнік.

яго—М. Марцінчык, сябры—Ф. Стэцкевіч, Ул. Лукашэвіч, Марыян Шавель, пасол Бр. Тарашкевіч, І. Дварчанін, Кандыдаты: А. Мацейчык, А. Коўш, І. Савіцкі, Паўліна Мятла.

У Наглядную Раду выбраны: пасол Рак-Міхайлоўскі, Ул. Самойла, Ф. Акінчыц, К. Крук, С. Астапчык.

### 289 Камітэтаў.

У Зах. Беларусі да 15-VIII сёл. г. з'арганізаваліся Гурткі і выбраны Камітэты Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады лікам 289. Камітэты гурткоў працуюць што-дня.

З'арганізавана **25 Гурткоў** Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

---

## ЛАТВІЯ.

### 5-ціўгодкі.

Сёлета беларусы Латвіі сьвяткуюць 5-ціўгодкі сваёй адраджэнчай працы.

**Вітаем працу суседзяў братоў!**

### Беларускае выдавецтва ў Латвіі.

Латвійскімі ўладамі зацьверажана „Беларускае Выдавецтва ў Латвіі". Выдавецтва будзе працаваць пад даглядам гр. К. Езавітава і ставіць сваёй мэтай, ў першую чаргу, выдрукаваць шэраг беларускіх падручнікаў, прыстасаваных да навейшых вымаганьняў педагогікі і да жыцьця беларускай меншасьці ў Латвіі.

---

# Што чуваць ў сьвеце.

### Адозва кампартый Літвы і Польшчы.

У „Праўдзе" ад 12-IX-26 г. зьмешчана супольная адзова Ц. К. камуністых Літвы і Ц. К. камуністых Польшчы, ў якой гаворыцца аб падгатоўцы Пілсудзкага дзеля захвату Літвы. У адзове ёсьць гэткія характэрныя рысы:

„Пры гэткіх варунках на надыходзячую вайну паміж Літвою і Польшчай няможна глядзяць як на звычайную вайну паміж буржуазнымі дзяржавамі, з якіх кожнае зацікаўлена

ў захопленьні чужых зямель. У гэтай вайне, з аднаго боку, мы бачым адзін з атрадаў міжнароднага імперыялізму — Польшчу, якая пераварочваецца ў свой чарод у васала Англіі, а з другога боку—маленькую нейтральную Літву, якая ў сучасны момант, спасаючы сваю незалежнасьць, па неабходнасьці зьяўляецца памехай дзеля польска ангельскіх плянаў.

У данай вайне Літва, супрацiўляючыся Польшы, будзе вясьці барацьбу за сваю незалежнасьць супроць імперыялістаў; Польшча-ж будзе ваеваць дзеля захвату Літвы, дзеля прыгнечаньня літоўскага народу—дзеля падрыхтоўкі наступленьня міжнароднага імперыялізму на СССР. Перавага ў гэтай барацьбе над Літвою будзе абазначаць узмацненьне імперыялістаў, гэта будзе крок да перавароту ўсяе Прыбалтыкі ў калёнію імпэрыялістычных дзяржаў“.

Далей адзова зьвяртаецца:

„Рабочыя і сяляне, салдаты і ўсе працоўныя Польшчы, вы павінны ведаць, што паняволеньне Літвы польскім імпэрыялізмам абазначае ў далейшым замацаваньне дыктатуры Пілсудзкага, ўзмацненьне польскага і міжнароднага фашызму.

Памятуйце, што захват Літвы—гэта толькі пачатак: потым вас пашлюць супроць СССР як гарматнае мяса эўропейскіх банкіраў, вас пашлюць забіваць расейскіх рабочых і ўміраць за славу лёндынскай біржы“.

Канчаецца адозва гэтак:

„Рабочыя і сяляне, салдаты і ўсе працоўныя Польшчы' барэцеся ўсімі сіламі і сродкамі, знаходзячыміся ў вашых руках, супроць новай авантуры Пілсудзкага. Таварышы салдаты Польшчы, калі Пілсудзкі пазаве вас выступіць супроць Літвы, то вашым лёзунгам павінна быць: „Ні аднаго стрэла ў літоўскіх салдатаў, ў літоўскіх рабочых і сялян“.

Ня будзьце сьляпым начыньнем у руках Пілсудзкага і польскай буржуазеі і паноў дзеля паняволеньня Літвы, дзеля сьвяткаваньня ангельскага імпэрыялізму“.

## Вялікія забіякі.

Як паведомляюць часопісі, ў Жэневе адбыліся таемнічыя парады прэдстаўнікоў Польшчы, Фінляндыі, Эстоніі і Латвіі Польшча дабівалася, каб на нараду былі дапушчаны і прэд-

стаўнікі Румыніі, але дзяржавы Прыбалтыкі адмовіліся ад супольнага фронту з Румыніяй, каб не рабіць відавочнай, дэманстрацыі супроць СССР. Польскі міністр Залескі ўнёс прапанову гэтае пытаньне разгледзяць другім разам.

Агулам, з Польшчы ўвесь час ідуць трывожныя весткі: Пілсудзкі загадаў рабіць манёўры каля Літоўскай граніцы і сам некалькі разоў быў у Друскеніках значна павялічваецца чыннасьць польскіх стралецкіх арганізацый, якія з усіх бакоў Польшчы зьбіраюцца на Літоўскую граніцу. Каб задабрыць вайсковых, Пілсудзкі дамагаецца, павялічэньня пэнсіі афіцэрам амаль на 100 % у той час як безработныя, не атрымліваючы ніякае дапамогі, галадуюць, і адмоўлена палепшыць становішча цывільных ўрадоўцаў жалезнадарожнікаў і іншых.

Дзяржавам Прыбалтыкі трэба мець на увазе, што выбух якога-колечы аружнага канфлікту, ніколі ня будзе на іх карысьць, а таму ня трэба ўчаляцца ў заварваемую Польшчаю кашу; ня трэба рабіцца „качагарамі“ для раздуваемага Польшчай і яе апекунамі—полымя на ўсходзе Эўропы.

## Трыумф Нямеччыны ў Лізе Народаў.

8 верасьня адбылося з вялікім трыумфам прыняцьце Нямеччыны ў склад Лігі на сталае мейсца ў яе Радзе—на падставе аднагалоснага выбару яе. Пасьля гэтага—на другі дзень—прыехала ў Жэневу нямецкая дэлэгацыя, каб прыняць учасьце ў працах Агульнага Збору і Рады Лігі.

Як ведама, нямецкі ўрад згары заявіў, што ня вышле сваей дэлегацыі ў Жэневу, пакуль ня будзе першым чынам —перадусім—прынята Нямеччына і толькі яна адна ў склад Лігі і на сталае мейсца ў Радзе Лігі.

Гэтым днямі маюць адбыцца выбары ўсіх дзевяцёх „нясталых“ сяброў Рады Лігі—ужо з учасьцем Нямеччыны“.

---

Redaktorius-leidėjas **E. Gaidukevičius.**

Рэдактар-выдавец **Е. Гайдукевіч.**